


# DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№2 ВЕРАСЕНЬ 2001 г.


## ВЕСТКІ

БРАСЛАЎШЧЫНА.

Падрыхтаваны да друку зборнік матэрыялаў пятай навукова-краязнаўчай канферэнцыі "Браслаўскія чытанні". Канферэнцыя праходзіла ў Браславе 27–28 красавіка 2000 г. Яе ўдзельнікамі і гасцямі былі даследчыкі, краязнаўцы, музейныя супрацоўнікі Беларусі, Польшчы, Літвы, Латвіі. Матэрыялы, прадстаўленыя даследчыкамі, пашыраюць нашы звесткі па гісторыі, культуры Браслаўшчыны і будуць карысны ўсім, хто цікавіцца мінулым нашага краю. Сапраўдным упрыгажэннем зборніка стаў артыкул французскага даследчыка, дырэктара Цэнтра Напалеонаўскіх даследванняў Фернана Бакура, прысвечаны І.Мюрату. У артыкуле ёсць шмат цікавых падрабязнасцей аб эпізодах вайны 1812 г. на Браслаўшчыне, прабыванні Мюрата ў Бяльмонтах. Артыкул на добраахвотных пачатках з французскай мовы пераклаў Васіль Архіпенка. Плануецца перадаць зборнік у буйнейшыя бібліятэкі, а таксама ў школы раёна.



21 – 22 ліпеня ў Браславе адбыўся фестываль рэлігійнай песні "Спяваем табе, Валадарка азёраў", арганізаваны парафіяй касцёла Нараджэння Маці Божай. У ім бралі ўдзел каля 50-ці дзяцей ад дашкольнага да старэйшага школьнага ўзросту. Першае месца ў малодшай групе заняла Бажэна Бука, у старэйшай групе – Лена Карпіцкая. На конкурсе дуэтаў лепшым быў прызнаны дуэт у складзе Лены і Аляксандра Рулевічаў. Канцэрты фестывалю адбываліся на спецыяльна ўзведзенай каля касцёла сцэне. Арганізатары мяркуюць зрабіць фестываль традыцыйным.



Галоўнай каталіцкай святыняй Браслаўшчыны з'яўляецца цудадзейны абраз Маці Божай Браслаўскай – апякункі нашага краю. 22-га жніўня ўпершыню быў адзначаны дзень ушанавання Маці Божай Браслаўскай, які зараз будзе ўносіцца ў каталіцкі каляндар. Дарэчы, Маці Божая Браслаўская – адзіная каталіцкая святыня, якая мае вызначэнне "Валадарка азёраў". Каля Браслаўскага касцёла сабраўся вялізны натоўп вернікаў. Гучалі пранікнёныя словы, меладычныя спевы, малітвы. Гасцямі ўрачыстасцей былі шматлікія святары з іншых парафій Беларусі. Прысутнічалі біскуп ардынарый Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслаў Блін і біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі Кірыл Клімовіч.

Нядаўна ў адной з размоў давялося пачуць, што ў вядомага беларускага паэта Пімена Панчанкі ёсць верш, нібыта прысвечаны легендарнаму браслаўскаму лекару Станіславу Нарбуту. У зборніках паэта аказалася нескладаным адшукаць верш "Сэрца і крыж", прысвечаны самаадданаму вясковаму лекару. Невядома, ці адносіцца верш, напісаны ў 1964 годзе, да С.Нарбута. Магчыма, гэта ўдасца высветліць пры больш дэтальных пошуках. Аднак, твор П.Панчанкі надзвычай пасуе да таго, што мы ведаем пра браслаўскага лекара. Так гэта ці не, мяркуйце самі.

СЭРЦА І КРЫЖ.

Жыў доктар у нашай мясціне.
Няма ўжо такіх дактароў:
Паставіць ён банкі ці п'яўкі –
І заўтра ты жыў і здароў.
Дарадчык, суддзя, павітуха,
Мужыцкі сівы кастапраў,
Ён ведаў душу кожнай хаты,
Сакрэты ўсіх кветак і траў.
Не быў прагавіты да срэбра
І жыў беднавата, дзівак.
Дзе іншы урваў бы чырвонец,
Ён браў сарамліва пятак.
Бурчаў ён на гразь, забабоны,
Ды вельмі тут не пакрычыш:
Няўроды, пажары... А сохі
Ламаюцца аб карчы.
Ня п'яніц вясковых сварыўся,
З галечай людской не мірыўся,
А там пастарэў, занядужаў,
Ад працы бяссоннай змарыўся.
Пастукала смерць да старога...
А доктар, раней чым сканаць,
Паспеў запаветнае слова
Мужчынам старэйшым сказаць:
"Ля вёскі мяне пахавайце,
На горцы, дзе белы бярознік;
Пастаўце мне крыж на магіле
Высокі-высокі, жалезны..."
Памёр без пакут ён, і людзі
Маўкліва схіліліся ў горы.
Прыйшла на хаўтуры ўся воласць,
І плакалі бабы уголас:
"Бывай, наш вялікі заступнік
Ты быў справядлівы і чэсны..."
Сяло на магіле яго
Паставіла крыж высачэзны.
І дзіва! З вясны той журботнай
Пажары ў вёсцы звяліся,
Хоць грукаў пярун і маланкі
Ляцелі з паднебнай высі.
Пра цуд разышліся легенды,
І мала хто знаў у народзе,
Што крыж навальнічныя беды
Ад стрэх саламяных адводзіў;
Што мёртвае сэрца
Людзей, як жывое любіла,
Агонь на сябе выклікала,
Маланкі ў магілу лавіла.

*1964 г.*

# ВЕСТКІ

БРАСЛАЎШЧЫНА.

Пошукавая група з Мінска пад кіраўніцтвам Сяргея Каблова, удзельніка шэрага археалагічных экспедыцый на Браслаўшчыне, правяла падводныя даследванні на Богінскім возеры. Па папярэдніх звестках у гады Вялікай Айчыннай вайны тут затануў нямецкі бронетранспарцёр. Пакуль пошукі не далі вынікаў. Патрэбна больш грунтоўная інфармацыя ад старажылаў.



Браслаўскае краязнаўчае таварыства ў пачатку жніўня правяло дзіцячы гуманітарны летнік "Укля - 2001". Удзельнікамі летніка былі больш за 30 дзяцей Браслаўшчыны. Былі таксама іх аднагодкі з іншых гарадоў Беларусі, Латвіі, Расіі. Лагер размяшчаўся ў маляўнічым наваколлі гарадзішча Тарылава. З аднолькавым захапленнем і дзеці, і дарослыя бралі ўдзел у працах па ўзвядзенню старадаўняга жытла, знаёміліся з прыёмамі апрацоўкі дрэва, косці, камяня, спрабавалі карыстацца даўнімі прыладамі, выраблялі лукі. Былі вандроўкі, спевы ля кастра, знаёмства з цікавымі асобамі. У гасцях летніка пабывалі віцебскі мастак Эдуард Галустаў, мінскія фотамастакі Юры Васільеў, Яўген Казюля, Сяргей Плыткевіч, спелеолагі з Масквы.



**У летніку «Укля-2001».**
*Фота Яўгена Казюлі. Менск.*



У памяшканні Браслаўскага музея традыцыйнай культуры ў жніўні – верасні прайшла выстава вядомага беларускага фотамастака Юрыя Васільева. Ю.Васільеў больш за 20 гадоў узначальваў фотаклуб "Мінск", удзельнічаў у вялікай колькасці фотавыстаў, быў вядучым цыкла перадач па фотамастацтву на Беларускім тэлебачанні, мае званне заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь. Выстава "Прысвячаецца сябрам" аб'яднала працы мастака розных гадоў – партрэты, пейзажы, фотаздымкі са шматлікіх пленэраў.



Напрыканцы жніўня ў Браславе адбылася сустрэча з вядомым беларускім пісьменнікам Уладзімірам Арловым і яго сябрам бардам і журналістам Зміцерам Бартосікам. Сустрэчу арганізавала Браслаўскае краязнаўчае таварыства пры дапамозе парафіі касцёла Нараджэння Маці Божай. Прысутнічала больш за 60 чалавек, пераважна моладзь. Пасля сустрэчы, на якой гучалі вершы, урыўкі з твораў пісьменніка, песні Бартосіка, можна было набыць кнігі і атрымаць аўтограф аўтара. У.Арлоў падараваў некаторыя са сваіх выданняў музею, раённай бібліятэцы, бібліятэцы парафіі.

## *Актуаліі*



Рыцару не месца сярод халопаў

# ВЕСТКІ

Супрацоўнікам Браслаўскага гістарычна-краязнаўчага музея было даўно вядома, што ў пачатку XVI ст. у знакамітым Кракаўскім універсітэце навучаўся юнак з мястэчка Друсвяты. Больш дэталёвыя даследванні па гэтаму факту правялі краязнаўцы Друсвяцкай СШ пад кіраўніцтвам настаўніцы Эмы Шавола. Паводле звестак універсітэта, 3-га верасня 1528 г. Мікола, сын Паўла, з Друсвятаў заплаціў першы ўзнос за навучанне ў памеры 4-х грошай. Болей звестак пра Міколу архіў не ўтрымлівае і таму яго лёс невядомы. Верагодней за ўсё, Мікола нядоўга вучыўся ва ўніверсітэце.



Супрацоўнікі музея, з дапамогай жыхара Браслава Пятра Агейчыка, прадпрынялі абследванне тэрыторыі, якая прылягае да заліва возера Несціш з востравам Манастыр. Паводле гістарычнай інфармацыі на беразе возера знаходзіліся заезны двор манастыра (аўстэрыя) і поле, на якім збіраліся паломнікі. Знойдзена даволі вялікая колькасць побытавых прадметаў, а таксама звыш 40-ка манет (сярод манет пераважаюць медныя грошы перыяду Вялікага княства Літоўскага).



Другі раз атрымалі запрашэнне на археалагічны фестываль у Біскупіне (Польшча) супрацоўнікі Музея традыцыйнай культуры Валеры і Эла Зінкевічы. Біскупінскі фестываль – самы прэстыжны і прадстаўнічы ў Польшчы. У ім удзельнічаюць майстры, якія дабіліся значных поспехаў у адраджэнні старажытнейшых рамёстваў і заняткаў. В.Зінкевіч прадстаўляў ганчарства, а Э.Зінкевіч саломапляценне Браслаўшчыны, у іх архаічных формах.



Скончвацца апошні, пяты тур завочнай краязнаўчай алімпіяды сярод школьнікаў раёна. Яна распачалася яшчэ ў мінулым вучэбным годзе. Заданні кожнага тура складаліся з 5 пытанняў, адно з іх было фотапытанне. Чацвёрты тур быў прысвечаны прыроднаму краязнаўству. Хутка будуць падведзены вынікі. Брала ўдзел у алімпіядзе звыш 60 навучэнцаў з 26 школ. На восеньскіх вакацыях ЦДТ будзе ладзіць краязнаўчы злёт, на якім пройдзе заключны тур алімпіяды. Рабяты паспрачаюцца за званне лепшага краязнаўцы.

# ВЕСТКІ

МЁРШЧЫНА.

Вучні СШ № 3 г.Мёры прынялі актыўны ўдзел у рэспубліканскім конкурсе для школьнікаў: "Мой радавод. Лёс сям'і ў XX ст.". Асабліва грунтоўныя даследванні былі праведзены Антонам Ермалёнкам. Яго праца: "Трагічныя і гераічныя старонкі маёй сям'і ў XX ст." атрымала першае месца з 400 прадстаўленых работ. Узнагародай была паездка ў Варшаву і каштоўны падарунак – музычны цэнтр. Вучаніца 10-га класа за сваё даследванне: "Лёс Сіповічаў ў XX ст." атрымала другую ўзнагароду – фотаапарат і цікавыя беларускія кнігі і касэты.



Юбілейны – 25-ы год дзейнасці археолага-краязнаўчага гуртка "Арганаўты мінулага" сапраўды стаў памятным, перш за ўсё, багатымі і змястоўнымі адкрыццямі. Так, увесну быў адкрыты сярэднявечны могільнік на тэрыторыі райцэнтра. Падчас вялікай краязнаўчай вандроўкі па маршруту Мёры – Дзісна – Язна былі адкрыты: гарадзішча Гараўцы, ранняга жалезнага веку, і курганны могільнік ля вёскі Бор – Паляна. Апошнія адкрыцці яшчэ раз пацвярджаюць, што вучні могуць быць больш уважлівыя, чым даследчыкі-вучоныя. Менавіта Язненшчыну вывучалі яшчэ польскія археолагі Галубовічы, а ў 50 – 60-я гады яе вывучэннем займаўся вядомы беларускі археолаг А.Мітрафанаў.



У Полацку адбылася канферэнцыя, прысвечаная выкананню 3-га этапа рэспубліканскай экспедыцыі краязнаўцаў "Наш край". З дакладам "Вынікі археалагічных даследванняў гуртка "Арганаўты мінулага" выступіў стараста гуртка Антон Ерiалёнак. У сваім выступе ён апавядаў пра шматлікія знаходкі новых помнікаў археалогіі не толькі на Мёршчыне, але і на Браслаўшчыне: паселішча часоў Полацкага княства ля в.Хралы, ля в.Жэймяні, а таксама ўмацаванай сядзібы феадала ля хутара Хралы. Журы прызнала яго выступленне лепшым і прапанавала накіраваць на рэспубліканскую канферэнцыю.



У першым нумары "Павета" быў надрукаваны артыкул пра Станіславу Замбжыцкую – шляхцянку герба "Касьцеша". На жаль, якраз у гэты час скончылася яе зямное жыццё. Далёкая яе сваячніца, былая выпускніца СШ № 3 г.Мёры, перадала для гісторыка-краязнаўчага музея школы больш ста цікавых экспанатаў: дакументы XIX – XX стст., здымкі, шматлікія кнігі і часопісы гістарычнай і рэлігійнай тэматыкі пераважна на польскай мове. Перададзеныя матэрыялы яшчэ раз сведчаць, што памерлая, працуючы ў савецкай краіне на самай бруднай працы, захавала шляхецкую годнасць і вытанчанасць.



25 год мы шукалі нумары часопіса "Наш глос", які выдавалі на польскай мове навучэнцы Дзісенскай гімназіі з 1930 па 1939 гг. Некалькі год назад выпускнік гэтай гімназіі Віталь Кажан, які жыве ў ЗША, даслаў у Народны Музей СШ № 3 ксэракопію аднаго нумара за 1938 год. І вось зараз ад краязнаўцы з Віцебска атрымалі ў падарунак тры нумары часопіса за 1938 – 1939 гады. Ён набыў гэтыя асобнікі ад былога выпускніка гімназіі Іосіфа Сасновіка, які распрадаваў сваю бібліятэку перад ад'ездам у Ізраіль. Часопіс заняў трэцяе месца ў міжваеннай Польшчы ў аглядзе друку вучняў. Дзякуючы часопісу, Дзісенская гімназія ўзгадвала выдатных пісьменнікаў і паэтаў, вучоных, такіх як: Ян Гушча, Дзмітры Касаты, Вацлава Каўчыйска і г.д. Атрыманыя нумары часопіса багата апавядаюць аб жыцці гімназіі, Дзісны і наваколля.

*Экспедыцыі, пошукі, цікавыя знаходкі*

# Памяткі палеазою

Наша праца пачалася са знаходкі невялікай акамянелай ракавінкі. Мы задаліся пытаннем: што гэта такое? За гэтай ракавінкай пацягнулася цэлае даследванне, якое і лягло ў аснову нашай работы. Гэтая знаходка аказалася не адзінай. Гэтыя ракавіны і адбіткі жывёл, якія жылі яшчэ ў палеазойскую і мезазойскую эры. Пасля іх адмірання іх шкілеты падвяргаліся працэсу фазелізацыі – акамянення. У выніку гэтага кальцавыя злучэнні замяняліся крэмнсвымі, а калі пераважаў крэмній, то ён замяняўся кальцыем. У такім выглядзе гэтыя рэшткі захаваюцца нават сотні мільёнаў гадоў.

У паверхневыя адклады нашай Браслаўшчыны яны трапілі з марэнай апошняга ледавіка. Туды яны трапілі з парод палеазойскага і мезазойскага часу, па якім праходзіў ледавік.

Сярод нашых знаходак з дапамогай літаратуры і вучоных мы вылучылі рэшткі наступных выкапнёвых істот:

- брахеаподы – жыхары палеазойскіх мораў;
- трылабіт – кембрыйскі–сілурыйскі перыяд;
- тэнтакуліта – дэвонскі перыяд;
- клімснія – дэвонскі перыяд;
- ракушачнік – з рэшткаў двухстворкавых малюнкаў – палеазойская эра;
- белемніты – кіруючыя выкапні мезазойскай эры.

На жаль, не ўяўляецца магчымым дакладна ўстанавіць, калі жылі гэтыя выкапні. Па-першае, ледавік, рухаючыся са Скандынавіі, прайшоў па тэрыторыі якая складзена адкладамі не менш як пяці геалагічных перыядаў. Па-другое, зараз яна з'яўляецца часткай марэнных парод, а тыя – сумессю адкладаў той тэрыторыі, па якой прайшоў ледавік.

Гэта работа яшчэ не скончана. Мы будзем яе працягваць. Спадзяёмся, мы знойдзем яшчэ шмат цікавага.

**Ферковіч Таццяна,**
*вучаніца Канстанцінскай БШ.*









Акамянеласці з фондаў Браслаўскага музейнага аб"яднання.

*Артыкулы*

# Старонкі гісторыі Друйскай аптэкі і яе ўладальнікаў.

Мястэчка Друя – старажытны беларускі цэнтр гандлю на Заходняй Дзвіне, які атрымаў права на самакіраванне згодна з прывілеем 1618 г. Яна Сапегі. Эканамічнае развіццё Друі было цесна звязана з Друйскім графствам – прыватным уладаннем магнацкага рода Сапегаў. Палітычныя і эканамічныя рэформы ў Рэчы Паспалітай у астатняй чвэрці XVIII стагоддзя станоўча адбіліся на гандлёвай і прамысловай дзейнасці мястэчка, якое налічвала ў 1799 г. 3400 жыхароў. Менавіта ў гэты перыяд граф Францішак Сапега дэкляраваў: "Трэба захоўваць мяккасць і міласэрднасць, бо падданы занадта нешчаслівы, каб над ім здзекваліся, і занадта карысны для свайго пана, каб дапускаць да яго несправядлівасць". Адсюль вынікалі ініцыятывы ўладальнікаў па развіццю аховы здароўя і аптэчнай справы.

19 сакавіка 1810 г. па хадайніцтву князя Мікалая Сапегі быў падпісаны ўказ Расійскага імператараб залажэнні аптэкі ў Друі і даручэнні Мінскай урачэбнай упраўе заснаваць вольную аптэку. Як сведчыць надпіс на дакуменце, утрыманне аптэкі 15 студзеня 1858 г. даручана правізару Фрыдрыху Норэнбергу. У канцы XIX – пачатку XX ст. уладальнікам і кіраўніком аптэкі з'яўляўся Адлер Аўгуст Іванавіч, які таксама быў правізарам і меў 2-х аптэкарскіх памочнікаў. А.Адлер вядомы як аўтар папулярных выданняў фармацэўтычнага і санітарна-гігіенічнага зместу.




9 траўня 1928 г. уладальніцтва аптэкай перайшло да Станіслава Жаўняровіча, магістра фармацыі, які паходзіў з друйскіх сялян і скончыў 30 верасня 1916 г. Маскоўскі ўніверсітэт са ступенню аптэкарскага памочніка. Пэўны час працаваў у Вінніцкай аптэцы, кіраўніком сеймікавай аптэкі Ашмянскай акругі, а ў 20-х гадах ажаніўся на дачцэ А.Адлера і набыў у астатняга права ўласнасці на Друйскую аптэку. Ступень магістра фармацыі атрымаў па сканчэнні ў 1926 г. фармацэўтычнага аддзялення Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, пад кіраўніцтвам вядомага фармацэўта і заснавальніка віленскай фармацэўтычнай школы прафесара Яна Мушынскага.

У верасні 1939 г. аптэка была нацыяналізавана. Уладальніка перавялі на аптэкарскую працу ў г.п.Дунілавічы Вілейскай вобласці, і толькі пасля пачатку Вялікай Айчыннай вайны Станіслаў Жаўняровіч вярнуўся ў Друю, дзе працягнуў аптэкарскую дзейнасць. Дапамагаў медыкаментамі савецкім і польскім (АК) партызанам, неаднаразова рызыкаваў жыццём, сваім і сям'і. Па сканчэнні вайны перасяліўся на Беласточчыну, быў уладальнікам аптэкі ў Бельску-Падляскім, працаваў таксама на Сувальшчызне да 1980 г. Памёр ва ўзросце 89 гадоў і пахаваны ў Аўгустове, дзе жывуць яго дзеці.

Сын Жаўняровіча, Мар'ян, 1926 г.нараджэння, таксама стаў фармацэўтам, працягнуўшы сямейную дынастыю аптэкараў (бацька Аўгуста Адлера, памёршага ў 1929 г., па ўспамінах Мар'яна, працаваў у аптэцы). Ён скончыў у 1952 г. фармацэўтычны аддзел Медычнай акадэміі ў Лодзі. Пасля шматгадовай працы ў аптэчнай сістэме Польшчы атрымаў пенсію і жыве ў Аўгустове. Яго сын Станіслаў стаў біяхімікам, абараніў габіліцыйную працу ў 1996 г.

*Андрэй Майсяёнак, прафесар, старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі.*

# Гісторыю Кітая даследуюць на Браслаўшчыне.

Як вядома, кітайская цывілізацыя мае глыбінную гісторыю. Менавіта кітайцы ўпершыню ў свеце зрабілі такія вынаходніцтвы як шаўковыя тканіны, фарфор, папера, порах, компас. Велізарных вышынь дасягнулі яны ў такіх галінах як адукацыя, архітэктура і мастацтва, этыкет, філасофія. Аднак, нягледзячы на такі вялікі ўклад у скарбніцу сусветнай культуры, кітайская цывілізацыя прайграла Еўропе ў тэхналагічным спаборніцтве. У XIX ст. Кітай ператварыўся ў велізарную паўкалонію найбольш магутных еўрапейскіх дзяржаў, а таксама ЗША і Японіі. Чаму так адбылося? Як можна растлумачыць такі феномен: спачатку – вялікія поспехі, а потым працяглы тэхналагічны застой у эканоміцы Кітая? Над гэтымі пытаннямі задумвалася не адно пакаленне гісторыкаў. У 70-я гады XX ст. у Савецкім Саюзе гісторыкі імкнуліся знайсці адказы на гэтыя пытанні ў межах дыскусіі аб так званым "азіяцкім спосабе вытворчасці". Аднак метадалагічная адмежаванасць падыходаў не дазволіла тады савецкім даследчыкам краін Усходу прыйсці да лагічных і грунтоўных высноў.

Над гэтымі пытаннямі яшчэ ў студэнцкія часы пачаў працаваць і я, Леанід Дзікцяроў, цяперашні выкладчык гісторыі і эканомікі Відзаўскага ПТВ-169. У якасці метадалагічнага падмурку для сваіх даследванняў я выраšыў пакласці сцвярджэнні сучасных расійскіх усходазнаўцаў Л.С.Васільева і Л.Б.Алаева аб цыклічным характары гістарычнага развіцця краін Усходу. Падчас працы прыйшлося перагарнуць шмат навуковай і навукова-папулярнай літаратуры. У выніку ўдалося даказаць не толькі правільнасць здагадак аб цыклічнасці гістарычнага развіцця Кітая, але і напоўніць метадалагічную схему значнай канкрэтыкай.

Праца атрымала назву "Асноўныя тэндэнцыі гістарычнага развіцця Кітая (са старажытных часоў да пачатку XX ст.)". Першая частка артыкула з'явілася ў штоквартальным навукова-метадычным часопісе "Гісторыя: праблемы выкладання" у нумары 3 за 2001 год (старонкі 84 – 97). Матэрыял пададзены ў форме метадычнай распрацоўкі ўрока па сусветнай гісторыі ў X класе. Аўтар адрасуе свой артыкул перш за ўсё настаўнікам гісторыі ліцэяў, гімназій, а таксама працуючым у класах з профільным навучаннем гісторыі ў агульнаадукацыйнай школе. У якасці галоўных мэтаў вывучэння новага матэрыялу аўтар называе наступныя: разуменне логікі гістарычнага развіцця Кітая; вызначэнне аб'ектыўных фактараў, якія абумовілі развіццё асноўных грамадска-сацыяльных працэсаў. Акрамя вучэбных задач перад вучнямі ставяцца і развіваючыя (прывіць вучням навыкі працы з табліцамі, графічнымі схемамі,

вучыць аналізаваць гістарычныя тэксты, пазнаёміць з элементамі навуковага мадэліравання.

У мэтах выяўлення больш поўнай і нагляднай карціны логікі гістарычнага развіцця аўтар прапаноўвае скарыстаць не "гарызантальную" пабудову матэрыяла (пры якой гісторыя краіны разбіваецца на некалькі частак і вывучаецца разам з іншымі краінамі ў межах асобных гістарычных перыядаў), як патрабуе праграма, а "вертыкальную", пры якой уся тэма сканцэнтравана ў адным месцы і ахоплівае некалькі тысячагоддзяў. Артыкул па гісторыі Кітая накіроўвае на прымяненне на ўроку методыкі навуковага пошуку. Настаўнік ставіць праблемныя пытанні і вучні з дапамогай настаўніка шукаюць на іх адказы. У якасці галоўнага вучэбнага кампанента выступае не падручнік, а табліца "асноўныя падзеі з гісторыі Кітая". У ёй у вельмі сціслай форме змешчаны найбольш важныя падзеі палітычнага і сацыяльна-эканамічнага жыцця Кітая. Вывучэнне матэрыяла падручніка прапаноўваецца вучням загадзя ў форме самастойнага хатняга задання. Вывучаемы матэрыял праілюстраваны графічнымі і лагічнымі схемамі.

Названы артыкул адрозніваецца ад іншых метадычных распрацовак спалучэннем такіх цяжказлучаемых рысаў як метадалагічная складанасць вырашэння праблемы, з аднаго боку, а з другога – даступнасць і прастата стылю вучэбных тэкстаў.

У канцы артыкула прадугледжаны паўтаральна-абагульняючыя пытанні і заданні, што павінна значна спрасціць працу настаўніка пры правядзенні кантролю за ведамі вучняў.

Маю надзею, што мой артыкул "Асноўныя тэндэнцыі гістарычнага развіцця Кітая" зацікавіць не толькі настаўнікаў гісторыі, але і навукоўцаў, студэнтаў і ўвогуле аматараў усходніх цывілізацый.

Працяг і заканчэнне артыкула плануецца змясціць у наступных нумарах часопіса "Гісторыя: праблемы выкладання".

***Леанід Дзікцяроў,*** выкладчык СПТВ-169

---

*Вандроўкі*

# МЁРЫ - ДЗІСНА - ЯЗНА




За 25 гадоў краязнаўчы гурток "Арганаўты мінулага" здзейснілі шматлікія пошуковыя экспедыцыі па самых розных кутках нашай Мёршчыны. Асабліва шмат было вывучана наўкол райцэнтра. На гэты раз старэйшыя гурткоўцы выбралі адзін з самых далёкіх маршрутаў – Язеншчыну, куды вельмі "рэдка трапляла нага "Арганаўтаў". Была канкрэтная мэта – праверыць успаміны аб старажытнасцях Язна, мастаку В.Жаўняровічу, які жыве ў Францыі. Ягоныя ўспаміны былі надрукаваныя ў раённай газеце яшчэ ў маі.

Адзін дзень вандроўкі быў адведзены старажытнай Дзісне. Найперш мы наведалі музей школы-інтэрнат, дзе шматлікія экспанаты апавядаюць аб старажытных і трагічных старонках гісторыі. Асабліва ўразіла адна з апошніх знаходак музея – прыдарожная скульптура Св.Якуба XIX ст. Потым пачалося візуальнае знаёмства са славутасцямі Дзісны. Мы сустрэліся з самай старэйшай жыхаркай Ефрасінняй Паўлаўнай Мятлой. Разам з ёй гурткоўцы вывучалі рэшткі Верхняга замку, слухалі яе цікавы аповяд аб мінулым. Адначасова нам удалося сабраць аскепкі керамікі і кафлі, якімі літаральна "засеяны" вуліцы і гароды Дзісны. Потым намі апекваўся завуч Дзісенскай школы Павел Уладзіміравіч Баговіч. Дзякуючы яго ўлюбёнасці ў свой горад, мы цэлых шэсць гадзін правялі з ім на экскурсіі па вулачках старажытнай Дзісны. Яго аповяд дапаўнялі старыя карты, схемы, і, здаецца тысячагадовая гісторыя стала рэальнай. Здаецца ажылі старыя завулкі і ўзнесліся вежы замкаў, па якіх пранесліся малюнкі гісторыі: яскравая постаць Баркулаба Корсака, караля Стэфана Баторыя, дзісенскіх гімназістаў 20-х гадоў XX ст. Дзякуючы аповяду П.У.Баговіча менш кідалася ў вочы сучасная занядбаласць і заняпад старажытнага горада. Гэта асабліва было заўважна на могілках, бо менавіта могілкі з'яўляюцца адной з галоўных адзнак стану культуры сучасных людзей. Сучасныя дзісенцы не толькі не ахоўваюць старыя пахаванні, але пацішку знішчаюць іх. Пад час кароткага агляду старых помнікаў мы знайшлі магілы вядомых людзей нашага краю: Есьманава – удзельніка паўстання 1831-га і 1863 гадоў, Ганны Лапацінскай-Каменскай. Дзякуючы захаваўшымся надпісам мы ўстанавілі гады яе жыцця, бо, нават укладальніку радаводу Лапацінскіх гэтыя даты невядомыя. Жахлівы від маюць разбурэнні касцёла, шпіталя, гімназіі – калісь прыгожых і велічных будынкаў.

Дзісна – адзін з нямногіх беларускіх гарадоў, які захаваў старую планіроўку вуліц, прыгожы брук. Але назвы вуліц не адпавядаюць іх мінуламу. Хто перашкаджае зараз вярнуць спрадвечныя назвы: Замкавая, Парканная, Прабойная? Хто перашкаджае ўшанаваць памяць славутых землякоў, якія навучаліся ў Дзісне: Яна Гушчы і Міхася Машары? Пакуль не будзе падобных зменаў, ніхто ў развіццё горад інвестыцый укладаць не будзе. Такія пытанні мы абмяркоўвалі з Паўлам Уладзіміравічам, блукаючы па Дзісне. На развітанне П.У.Баговіч падараваў музею старажытны падсвечнік і мухалоўку. Цікавыя гутаркі ў нас адбыліся і з многімі іншымі жыхарамі Дзісны, якім не абыякавая гісторыя мінулага. Асаблівая наша ўдзячнасць Соф'і Фролаўне Шыман, Уладзіміру Піліпавічу Заяц, Ніне Пахомаўне Лушчык. А апошнюю знаходку ў Дзісне "Арганаўты" знайшлі на аўтобусным прыпынку, дзе староста гуртка Ермалёнак Антон знайшоў манету дзеньгу 1732 г.

У Язна нас гасцінна сустрэў дырэктар школы Іван Мітрафанавіч Шыкула. Ён нас размясціў на начлег і ўсе дні забяспечваў нас малаком і смятанай з уласнага падворка. На наступны дзень да нашых пошукаў далучыўся Аляксей Іванавіч Юршэвіч, які нарадзіўся ў гэтых мясцінах і на ўсё жыццё захаваў любоў да роднага краю. Спачатку наведалі краязнаўчы куток Язен-

скай школы, у якім ёсць шмат цікавых экспанатаў: старадрукаваная кніга XVIII ст., дакументы XIX ст., этнаграфічныя рэчы. Наступны шлях ляж ляжаў да помніка прыроды – валуна. Шмат легенд давялося аб ім пачуць. Быццам на ім свае адбіткі пакінуў сам Усяслаў Чарадзей. Так па меркаванню Язэпа Драздовіча, у наваколлі Язненшчыны зімавала яго войска. Існуе і іншая думка – сляды на ім пакінуў Стэфан Баторый, калі рухаўся з войскам вызваляць Полацк. Жыве паданне пра тое, што быццам на камені абедала руская царыца Кацярына, ды й Напалеон не прамінуў яго. Уважліва агледзеўшы паверхню каменя, зрабіўшы яго вымярэнні, гурткоўцы далучыліся да меркавання навукоўцаў, што гэты камень быў месцам пакланення язычнікаў у дахрысціянскія часы. На жаль, на сённяшні дзень не захавалася старажытных малюнкаў, ці іншых выяў каменя. Сучасная паверхня валуна пашкоджана выветрываннем і распальваннем на ім вогнішчаў. Камень з'яўляецца помнікам прыроды і павінен ахоўвацца дзяржавай. Але побач з ім выкапана сажалка і магчыма камень у хуткім часе спаўзе ў яе. Выцягнуць потым шматтонную камлыгу наўрад ці ўдасца.

Запамінальнай атрымалася сустрэча і з былым настаўнікам гісторыі, ветэранам вайны і працы Анатолем Уладзіміравічам Губертам. Шмат цікавага ён расказаў сённяшнім краязнаўцам аб археалагічных раскопках Язненскага гарадзішча і гарадзішча ля в.Гараўцы ў 50-х гадах, у якіх ён удзельнічаў разам з вучнямі. Вельмі мы спадзяваліся ўбачыць калекцыю медалёў і манет, якую ўсё жыццё збіраў Анатоль Уладзіміравіч. Але, на жаль створаны ім музей быў пасля разрабаваны, а сваю калекцыю ён перадаў унукам.

Наступная сустрэча адбылася з Клаўдзіей Сяргееўнай Юршэвіч, 1922 г.н. У гутарцы з ёй "Арганаўты" даведаліся аб невядомых фактах з гісторыі наваколля Язна, аб мясцінах, пра якія згадвае мастак В.Жаўняровіч. Ганна Антонаўна Вайцяховіч распавяла аб уладальніках Язна Корсаках, а настаўніца гісторыі Стома Ірына Мікалаеўна, акрамя цікавых і змястоўных фактаў пачаставала рабят свежым духмяным мёдам. Пасля гэтага, прачытанае і пачутае трэба было ўдакладніць на мясцовасці, правесці ўжо звыклы пошук. І вось што атрымалася. Не падцвердзіліся звесткі з успамінаў мастака В.Жаўняровіча аб курганах ва ўрочышчы Баравіны. Гарадзішча сапраўды было, археалагічныя даследванні на ім праводзіліся ў 1955, 1961 гг. Але раскопы не закапалі і гэтае месца нагадвае нейкія капанкі паросшыя лесам. Ва ўрочышчы Бор-Паляна захавалася курганная група X-XIII ст, якую называюць "французкія магілы". Вельмі шмат было знойдзена керамікі, а самая каштоўная знаходка – рэшткі кафлі XVI-XVII стст. На беразе воз.Малое Язна трапілася кераміка днепра-дзвінскай культуры і клінападобная сякера гэтага ж часу. Знойдзенае сведчыць пра тое, што старажытнае Язна існавала ў X-XIII стст., а ў XVI-XVII стст. тут была ўмацаваная сядзіба ўладальнікаў Язна Корсакаў. Паспрабавалі мы знайсці і камяні з надпісамі, але не атрымалася. Мясцовыя жыхары нічога паведаміць пра гэта не змаглі, але расказалі цікавае паданне пра адну з крынічак, якіх багата ў наваколлі. Людзі казалі, што калісці тут стаяла царква, але пад час страшнай буры, яна правалілася скрозь зямлю і на гэтым месцы забруіла крыніца. Мела яна чароўную сілу, шмат каму дапамагала. А ў даўнія часы да яе хадзілі працэссі з Язненскай царквы.

"Арганаўты мінулага" не абмінулі і могілкі. На праваслаўны, ля царквы, знойдзена магіла з надпісам на польскай мове, якая кажа, што тут пахаваны 33 невядомыя чырвонаармейцы ў 1920 г.Ёсць цікавы крыж з каменю мальтыйскаг тыпу, які, напэўна адносіцца да ранніх часоў хрысціянства ў нашым краі. Зарастаюць каменныя прыступкі да царквы, але ж на іх выступалі ў 1926 г. славутыя дзеячы Грамады Браніслаў Тарашкевіч, С.Рак-Міхайлоўскі. У сваіх прамовах яні заклікалі сялян да барацьбы за зямлю і волю.

На каталіцкіх могілках уразіла занядбанасць пахаванняў польскіх салдатаў, якія загінулі ў 1920 г. Помнікі, а іх каля 40, паваленыя і разбітыя. Яшчэ больш жудасна выглядаюць магілы славутага роду Корсакаў, якія шмат зрабілі для славы нашай Айчыны. У 70-я гады XX ст. пахаванні былі разрабаваныя, а зараз на гэтым месцы сметнік.

Вандроўка "Арганаўтаў мінулага" у Дзісну і Язна пакінула ў іх дваякае пачуццё. З аднаго боку – радасць ад новых адкрыццяў і знаходак, а знайшлі мы больш за 200 экспанатаў, з другога боку – сум ад таго, што захаваўшыеся рэшткі гістарычных месц і помнікі ўсё больш знявечваюцца і знішчаюцца сучаснікамі.

**Вітаўт Ермалёнак**, настаўнік СШ№3 г.Мёры,
кіраўнік гуртка "Арганаўты мінулага"

# ЮБІЛЕЙ ФОТАМАСТАКА

6 кастрычніка бягучага года споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння Яна Булгака, вядомага майстра мастацкага фотаздымку, этнографа, фальклярыста. Булгака часам называлі Нестарам польскай фатаграфіі, але спадчына выдатнага фотамастака належыць таксама і Беларусі і Літве. Ян Булгак нарадзіўся 6.10.1876 г. у в.Асташыне на Наваградчыне. Да 1912 г. ён жыў у Беларусі, апублікаваў шмат фотаздымкаў з беларускімі краявідамі, нацыянальнымі тыпажамі. У 1919-39 гг. Булгак кіраваў лабараторыяй мастацкай фатаграфіі пры Віленскім універсітэце. У гэты перыяд шмат вандраваў. Некалькі разоў пабываў і на Браслаўшчыне ў складзе экспедыцый па даследванню помнікаў даўніны. Вядомыя некалькі ўдалых здымкаў Браслава і наваколля, апублікаваных у розных выданнях. На жаль арыгіналы і негатывы з іх загінулі разам з усім архівам фотамастака (10 тыс. адзінак) ў 1944 г. у Вільні. Калекцыя фотаздымкаў Я.Булгака зберагаецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы (Ф.1135). у гэтай калекцыі шмат фотаздымкаў помнікаў архітэктуры Браслаўшчыны – касцёлы ў Друі, Барадзінічах, палацы ў Завер'і, Відзах-Лаўчынскіх, Бяльмонтах, сінагога ў Друі і інш. Частку фотаздымкаў удалося скапіраваць пад час падрыхтоўкі кнігі "Памяць", уключыць у гэтае і некаторыя іншыя выданні. Працы Булгака можна ўбачыць у экспазіцыі гістарычна-краязнаўчага музея. Калекцыя копій некалькі разоў дэманстравалася на выставах.



Ян Булгак памёр 4 лютага 1950 г. у Варшаве. Памяці фотамастака прысвечаны міжнародны фотапленэр, які прайшоў у пачатку кастрычніка на яго радзіме. Да юбілею Беларуская пошта выпусціла маляўнічы канверт, а на Мінскім паштамце адбылося спецгашэнне.

# ПАМЯЦІ ЮЗАФА БУЙНОЎСКАГА

*Сумная вестка прыйшла ад сяброў з Польшчы. 15 лютага бягучага году ў Лондане памёр вядомы польскі паэт Юзаф Буйноўскі. Ю.Буйноўскі нарадзіўся на Браслаўшчыне і да канца свайго жыцця захоўваў палымяную любоў да роднага краю, з вялікім задавальненнем падтрымліваў сувязі з тымі, хто паходзіў з Браслаўшчыны, а пазней аказаліся раскіданымі па ўсім белым свеце. Адгукнуўся ён і на ліст з Браслаўскага музея, хаця быў ужо моцна хворы. У Браслаў Ю.Буйноўскі даслаў некалькі зборнікаў сваіх вершаў, некаторыя біяграфічныя матэрыялы. Быў шанец сустрэцца з паэтам. Наша група, якая наведвала грамадскія арганізацыі Уэльса ў лютым 2001 г. вярталася ў Беларусь праз Лонданскі аэрапорт Гартвік. Мы прасілі арганізатараў паездкі на палову дня заехаць у Лондан. Не стаў тэлефанаваць Ю.Буйноўскаму загадзя. Аказалася не дарэмна. У Лондан мы не заехалі... Праз два тыдні паэта не стала.*

*Ніжэй змяшчаем матэрыялы, прысвечаныя паэту Ю.Буйноўскаму.З біяграфіяй паэта можна пазнаёміцца ў кнізе «Памяць. Браслаўскі раён»*



## Памяці настаўніка.

"Не мае вялікага значэння, кім мы былі ў гады нашай прафесійнай актыўнасці – але надзвычай істотна, якімі мы былі тады і якімі застаемся ў старыя гады". Гэтыя надзвычай мудрыя словы пачуў я пад час адной з незабыўных сустрэч з прафесарам Буйноўскім. Меў шчасце ўбачыць яго зноў праз 59 гадоў у верасні 1998 г. у Ізабеліне пад Варшавай. Муж і жонка Буйноўскія гасцявалі там у сваякоў, а ў Польшчу прыехалі на З'езд замежных паланістаў, арганізаваны Варшаўскім універсітэтам. У адзін з дзён сядзелі з Прафесарам на тэрасе і ўглядаліся ў карту Браслаўскага павета, няспешна вандравалі – Відзы-Богіна-Далёкія-Замошша-Аколіца Рудава-Бяльмонты-Браслаў, збочваючы ў розныя цікавыя мясціны і ўспамінаючы знаёмых даўніх гадоў. У пэўную хвіліну Прафесар прапанаваў мне звяртацца да яго па імені, па-браслаўскі, як гэта было ў роднай староньцы. Гэтая высакародная пазіцыя падцвярджвае, што выказаная Настаўнікам мудрая думка ішла ад шчырага сэрца.Яна таксама сведчыць не толькі аб тым, якім быў Настаўнік у свае творчыя гады, але і аб яго інтэлекце і характары ў гады сівой старасці. Выключная qualitas адзначала яго неаднойчы ў розных абставінах і сітуацыях, якімі было насычана яго надзвычай багатае на падзеі драматычнае жыццё. Быў жа ён і цудоўным настаўнікам-выхавацелем, і паэтам-авангардыстам, і страявым афіцэрам. У якасці афіцэра Настаўнік браў удзел ва ўсіх бітвах італьянскай кампаніі 2-га Польскага корпуса, у т.л. і ў легендарнай, але і надзвычай драматычнай бітве пад Монтэ-Касіна. Там загінула шмат яго калегаў і прыяцеляў, сярод якіх быў бліжэйшы да яго сябар Рышард Копысць, мастак і графік. Яго памяці прысвечана напісаная ў 1945 г. кніжка "Колы ў тумане". Потым ён быў у арміі Андэрса, пасля двойчы арыштаваны савецкімі "органамі" і двойчы ад іх уцякаў. Першы раз схаваўся ў Вільні, дзе стаў сябрам падпольнага Саюзу ўзброенай барацьбы. Другі раз здолеў з-пад Уржуму (наваколле Вяткі) дабрацца да Янгі-Юлю (Новая Дарога) пад Ташкентам, дзе знаходзілася армія Андэрса. За праяўленую ў яе шэрагах мужнасць пад час бітвы ля Монтэ-Касіна ён быў адзначаны Крыжом Змагання.

Пасля вайны настаўнік-паэт-салдат Юзаф Буйноўскі асеў у Лондане. Тут ён з часам развіў рознабаковую дзейнасць, творча рэалізоўваўся ў розных грамадскіх накірунках. Вось некаторыя з іх: прафесар звычайны, кіраўнік кафедры польскай літаратуры ў Польскім універсітэце ў замежжы, двухразовы дэкан гуманістычнага факультэта гэтага ўніверсітэта, пазней – ганаровы доктар універсітэта, выкладчык польскай літаратуры ў шэрагу прэстыжных еўрапейскіх універсітэтах. Быў таксама арганізатарам, ці ўдзельнічаў у арганізацыі розных польскіх навуковых таварыстваў у Англіі, перыядычных выданняў, адзін з арганізатараў культурна-навуковага жыцця сярод землякоў, аўтарам публікацый ва ўсіх польскамоўных часопісах. Такім чынам, Юзаф Буйноўскі пасля таго, як зняў незаплямлены афіцэрскі мундзір з польскімі і замежнымі ўзнагародамі, у цяжкіх умовах эміграцыі стаў заслужаным удзельнікам працэсу стварэння польскай гуманістыкі і шматгадовым яе прадстаўніком на Захадзе. Ю.Буйноўскі заняў належнае яму месца на пастаменце для найбольш выдатных дзеячоў нараджэнцаў Браслаўшчыны, якія ўнеслі значны ўклад у скарбонку польскай культуры. У гэтым ганаровым шэрагу Кароль Вырвіч, Томаш Ваўжэцкі, Station Капаньскі. Памятаем аб іх і ім падобных. Будзем за іх горды!

Закончыць гэты матэрыял хацелася б наступным. Прафесар Буйноўскі ўсё жыццё захоўваў любоў і тугу да малой Бацькаўшчыны. У 1994 г. у Ольштыне ён адказаў на пытанне журналіста аб тым, чым была для яго бацькоўская зямля: "Усім. Калі знаходзіўся ад яе вельмі далёка, з'яўлялася яна перад вачыма, асабліва ў хвіліны цяжкія, безнадзейныя. Зараз таксама думаю аб ёй часта. Дала мне ўсё, што магла даць і я спрабаваў аддзячыць ёй усім чым мог." А мне Настаўнік аднойчы даверыў сваю мару. У 1996 г. ён напісаў: "Найбольш хацеў бы немагчымай рэчы: стаць ганаровым грамадзянінам горада Браслава". Ёсць надзея, што Браслаў не забудзе Юзафа Буйноўскага, належным чынам ацэніць яго постаць. Прыйдзе на гэта час ...

**Станіслаў Пятушка,** вучань Браслаўскай гімназіі ў 1936-39 гг. Варшава.
Пераклад з польскай мовы К.Шыдлоўскага

Паэт Юзаф Буйноўскі аб сваёй малой Бацькаўшчыне -- Браслаўшчыне

### Przebudzenie (fragmenty).

... Przyszła i oplątała mnie pieśnią.
Osypała zebranym z pól słońcem
I opłotła zielenią traw po serce.
Pozostałem tak wrośnięty w łące
trawożerca.
I nie mów. I nie wołaj. Oplątała
Wstążką rzeki krtań i zbłękitniała,
A na oczy położyła dłonie,
Tak jeziorne, że kto dotknie, utonie.
Więc zalniło się modrym polem lnu
modrokwietnego
Pobok traktu wzielonego w latorośl.
Kołysała się łanem chleba żytniego moja
Białoruś.
... I nie oderwac ust
Od ziemi tamtej ostrej:
Do końca pozostanie jedna wieś.
Gdziekolwek pójdziesz,
Poniesiesz o niej pieśń.

### Jeśli nie jesteś stąd (fragmenty).

Jeśli nie jesteś stąd, gdzie pluszcze deszcz
i szemrze,
Gdzie kołyszących uczą kołysanek
żurawie,
Ni szeptu trczin nie słyszysz w stawie,
Drżącym od lęku olch;
Nie wiesz jak skrzypie żwir pod stopą,
Jak cząbr szeleści w wianku ziół –
Nie znajdziesz imion trzepoczących się
jak trzmieł
Czy trznadel w skrzydeł siatce,
Ani jak ryby plusk w sadzawki gąszcz
/ ... /
bo usta w szmer i szept zostaną nieme.
A innej takiej ziemi w świecie nie ma.

З томіку "Lipowy witraż". Лондан.1954.
*Выбраў Станіслаў Пятушка*

## Гартаючы старыя газеты

* М.Браславль (Новоалександровский уезд). Дирекция народных училищ приобрела за 3500 рублей усадебный участок земли из имения Барона-Энгельгардта "Заречье" мерою 10 десятин с жилым домом и всеми хозяйственными постройками для открытия литовского 2-классного училища. В настоящее время под наблюдением учителя соседнего народного учителя г.Каптура производятся работы по приспособлению господского дома под помещение училища. Работы эти будут закончены к августу месяцу сего года и с начала учебного года откроется названное училище. Остальную часть имения "Заречья" раскупили при содействии крестьянского банка местные крестьяне-белорусы.

Виды на урожай более или менее определились. Урожай озимых ожидается ниже среднего, яровых – средний. Особо плоха пшеница.

Белорус.

Северо-Западный телеграф, 1908, 12 июля.

* Г.Видзы (Новоалександровский уезд). В окрестностях города уже жнут рожь. Здесь существует довольно интересный обычай, так называемый "зажинный". Обыкновенно как только начинает желтеть колос, старший в семействе или в "дружине" ("Дружиною" называют общежитие нескольких семейств, связанных между собой родственными узами) идёт с серпом в поле и совершает "зажинку". Т.е. складывает несколько снопов сжатой ржи на самом видном месте, затем обращается к солнцу и кланяется ему до земли. Тут же стоят остальные члены семьи и хранят гробовое молчание и только после того, как "зажинщик" окончит своё "таинство", расходятся по местам для работы.

Л.Д.

Северо-Западный телеграф, 1908, 15 июля.

* М.Дрисвяты (Новоалександровский уезд). Дрисвятская и соседние с ней Браславская, Слободская, Красногорская и др. волости населены главным образом белорусами. Вследствие ли свойств своего характера или условий жизни, белорусы в смысле зажиточности далеко отстали от своих соседей литовцев. Хозяйства здешних крестьян не поддаются сравнению с хозяйствами крестьян литовцев Поневежского уезда. Как у последних дом полная чаша, так здесь недостаток и нужда, как железные цепи оковали все проявления деревенской жизни и парализовали всяческую инициативу. "Бедность не порок", говорит народная пословица, но добавляет "и не добродетель".

Она положила тяжёлую руку и на интеллектуальное развитие здешнего населения. Живущие здесь белорусы в своём умственном развитии далеко отстали от своих соседей литовцев. Они мало интересуются образованием – процент неграмотных среди них громадный. Как результат слабого умственного в здешнем населении царит полная апатия к проявлениям общественной жизни. Был я в январе в большом местечке Биржах. Попал на волостной сход. Народ серьёзный, вдумчивый. Предложилі ассигновать что-либо на открывающееся в м.Биржах городское училище. Крестьяне всесторонне обсудили вопрос и ассигновали 1500 руб. на постройку здания училища. Летом я был в одном литовском местечке на общем гулянии и подумал, что попал в Швейцарию. Везде порядок, чистота, толковые речи, разумные развлечения. Духовенство, интеллигенция и народ гуляли в одной тёплой семье. Не то встретил здесь среди белорусов. В конце июля попал на волостной сход в м.Дрисвяты. Народ забитый, измождённый, ко всему равнодушный. Был и под хмельком. Обсуждался вопрос об открытии в Скопишках училища садоводства и лесоводства. Разумеется, провалили. Один из участников, уходя со схода в шутку или всерьёз, сказал: "Кабы выпивка, то..." "Бог даст проживём и без училища," – перебил другой.

Эх, сердешные! На Бога надейся, а сам не плошай.

Проезжий.

Северо-Западный телеграф, 1908, 6 августа.

## Да юбілею Яна Булгака



Возера Дрывяты каля Браслава. Паштоўка паводле фотаздымка Я.Булгака канца 20-х гг.



Сінагога ў Друі. Фотаздымак Я.Булгака. Канец 20-х гг.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко, Людміла Пупіна

Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»